*Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!*
**ФРАНЦІШАК БАГУШЭВІЧ**



# Наша слова




Газета выходзіць з сакавіка 1990 года

№ 7(341) 25 ЛЮТАГА 1998 г.

## СУПРАЦЬ ДЫСКРЫМІНАЦЫІ

Віцебская гарадская рада Беларускага народнага фронту "Адраджэньне" склала заяву з нагоды абмежаванага ўжывання дзяржаўнай беларускай мовы і дыскрымінацыі беларусаў па нацыянальнай прыкмеце. У пратэсце між іншым гаворыцца: "На працягу апошніх гадоў у Віцебску рэзка скарацілася сфера выкарыстання нацыянальнай мовы беларусаў у галіне адукацыі, культуры і сродкаў масавай інфармацыі. Беларуская мова практычна не ўжываецца ў дзейнасці установаў, арганізацыяў і прадпрыемстваў прамысловасці, транспарту, гандлю і сферы паслугаў. Такім чынам абмяжоўваюцца правы беларускамоўных грамадзян. Гэта тым больш недапушчальна ў год паўвекавога юбілею Усеагульнай дэкларацыі правоў чалавека".

*Юрась Сцяпанаў.*

## ТБМ ідзе ў школы.

16 студзеня ў актавай зале клуба пазашкольнай работы "Золак" адбыліся літаратурныя чытанні. Мерапрыемства такога плану стала першым у Заводскім раёне г. Менска. Ладзілася яно пры дапамозе Заводскай Рады Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны. У пачатку праграмы са сваімі вершамі выступіў вядомы беларускі паэт Генадзь Бураўкін. Потым на сцэну быў запрошаны Віктар Жыбуль, былы супрацоўнік часопіса "Першацвет". У зале прысутнічалі маладыя юнакі і дзяўчаты, і гэта прыемна, бо паказвае, што наша моладзь усё ж такі праяўляе сваю зацікаўленасць да беларускай літаратуры. На маю думку, такія сустрэчы будуць вельмі карыснымі для навучэнцаў, таму што пашыраць іх веды роднай літаратуры, а некаторым нават дадуць магчымасць выступіць з уласнымі творамі, як гэта зрабілі вучні СШ № 169. На заканчэнне прагучалі песні ў выкананні барда Пятра Русава, які і вёў праграму. На працягу ўсёй вечарыны гучала наша беларуская мова, панаваў узнёслы настрой. Цешыць, што такія чытанні плануецца праводзіць кожны месяц. Думаю, тым хто захапляецца ды паважае родную мову і літаратуру, будзе цікава наведаць сустрэчы і на колькі гадзін заглыбіцца ў атмасферу Беларускасці

***Настаўніца біялогіі СШ №169. Вараксіна А.М***

## Ідзе перарэгістрацыя!

На пасяджэнні Рэспубліканскай Рады прынята рашэнне правесці перарэгістрацыю рэгіянальных арганізацый ТБМ да 1 сакавіка 1998 г. Нягледзячы на набліжэнне тэрміну, работа пасоўваецца марудна.

На сёння звесткі пра колькасны склад Рады і суполак падалі Гарадоцкая Рада - 120 сяброў, 8 суполак ,

Ваўкавыская рэгіянальная Рада - 29 сяброў, 5 суполак.

Таварыства беларускай мовы "Прамень" г.Рыга — 85 сяброў, з іх у Радзе -14

у фальклорным ансамблі "Надзея" - 18

у рэдкалегіі газеты "Прамень - 5

Гарадзенская гарадская Рада - 317 сяброў, 10 суполак

Маладэчанская аб'яднаная Рада - 1.682 сяброў , 22 суполкі

## Школьнікі Маладэчна за Беларускую мову



На здымку дзеці 10-А класа СШ №5 г. Маладэчна. Яны ахвяравалі на газету "Наша слова" 100 тысяч рублёў.

*Мікола Яўмененка*

## Мова. Маці Радзіма.

Боль шчымліва,учэпісты,
вечны...
Колькі будзе ўжыцці яшчэ
страт!
Дагараць пахавальныя свечкі,
Ды жыццё не закончыцца,
брат.

Паклянёмся ж бацькоўскаму
дому
(Ён-адзін, як і маці - адна),
Што яго мы не ўступім нікому,
Хоць і вочы закрые труна.

З намі будуць (павер мне на
слова),
Як жывучасці нашай выток,
Наша родная матчына мова,
Наш лясны і азёрны куток.

Мова.Маці.Краіна.Радзіма...
Мы ўсіх гэтых святыняў працяг.
Мова годнасць у нас абудзіла,
Маці вывела ў свет да жыцця.

Іх у сэрцах нясуць пакаленні
Праз гады, праз шляхі, праз
вякі —
І яны у непарыўным злучэнні
Ярка свецяць, нібы маякі.

***в. Чудзенічы, Лагойскі раён.***

## ПАРАСТКІ

Мы, настаўнікі , працуем з маладым пакаленнем нашага грамадства. А гэта - дзеці. Яны ўспрымаюць усё, што адбываецца ў грамадстве больш эмацыянальна, вобразна. Моладзь нашу хвалююць усе жыццёвыя праблемы, што адбываюцца ў нашай краіне: узаемаадносіны, сяброўства, замілаванне да роднай прыроды, тэма кахання. Таму пра ўсё гэта яны і пішуць у сваіх вершах. Наш абавязак заўважыць іх, падтрымаць. Многія пісьменнікі таксама не адразу пачалі пісаць. Таму вельмі важна, каб настаўнікам, дзецям таксама дапамагалі пісьменнікі. Патрэбна наладжваць сустрэчы з творчымі людзьмі. Я лічу, гэта вельмі добра, што моладзь піша вершы, развіваецца духоўна, атрымлівае асалоду ў сваёй працы, а не праводзіць свой вольны час на вуліцы, у не зусім жаданай кампаніі.

Згуртаванне "Пралескі" існуе гадоў сем. Неабходнасць яго стварэння ўзнікла само сабой. Пяцікласнікі 1979-80 года аказаліся надта паэтычныя. Калі настаўніца, Беланович Ніна Пятроўна, прапанавала напісаць сачыненне на тэму "За што я люблю свой край?", і яго можна было напісаць вершаванай мовай, то амаль палова вучняў згадзілася. У многіх атрымалася добра.

А пасля пачалася цікавая, творчая работа ў гуртку "Маленькія парасткі". Пісалі вершы, абмяркоўвалі іх. Настаўнікі накіроўвалі, дапамагалі, шліфавалі. Самыя цікавыя вершы друкавалі ў школьнай газеце "Пачатак".

Нараджэнне ўдалага твора было сапраўднаю радасцю. Настаўнікі абавязкова дзяліліся вынікамі працы на ўроках літаратуры ў іншых класах. Прапаноўвалі пры гэтым паспрабаваць свае сілы ўсім, хто любіць мастацкія творы.

Такім чынам, гурток папаўняўся і ўжо быў вырас да колькасці класа. Выпусцілі рукапісны альбом "Маленькія парасткі". Каб больш цікава было працаваць дзецям, наладжвалі сустрэчы з пісьменнікамі. На сустэчах нясмела прапаноўвалі паслухаць і свае вершы. Сапраўднай радасцю была сустрэча з Міколам Маляўкам. Праслухаўшы пачаткоўцаў, ён з захапленнем адзначыў: "Дзеткі, я ў вашым узросце так не пісаў!"

Крыху пазней нам пашанцавала яшчэ больш: сталі друкавацца ў рэспубліканскім часопісе "Першацвет". Затым выступілі на радыё. Вядома, пашанцавала самым здольным. Да гэтага часу ўпэўнена гучалі галасы паэтаў Андрэя Мазанеўскага (зараз студэнта факультэта журналістыкі), Барыса Спаскага (зараз студэнта Беларускага медыцынскага інстытута) і іншыя. Спрабавалі свае сілы ў прозе і таксама друкаваліся ў "Першацвеце" Аляксей Якаўлеў (зараз студэнт гістарычнага факультэта педагагічнага інстытута).

Такі творчы ўзлёт натхняе цяпер вучаніцу 7 "Б" класа Ганееву Вольгу, Валодчанка К ( 10 "Б"), Беланевіч Святлану (5"Г").

Іх дзіцячае паэтычнае бачанне навакольнага свету прыцягвае да сябе. Задача іх старэйшых сяброў - дапамагчы ім, падтрымаць , каб паэтычны агенчык не згас. Застаецца толькі спадзявацца, што яны здолеюць узляцець да вышынь сапраўдных мастакоў слова і калі -небудзь заявіць пра сябе ў поўны голас.

Хочацца пажадаць юным паэтам шчаслівай дарогі! Няхай ніколі іх не пакідае творчае натхненне.

***Настаўніца беларускай мовы і літаратуры Кункевіч Яніна Іосіфаўна. СШ №169 Завадскога раёна г. Менска.***

## ДЗЕСЯТЫЯ ЎГОДКІ АСВЯЧЭННЯ БЕЛАРУСКАГА ПАМЯТНАГА КРЫЖА.

5-га верасня 1988 г. у час 18-ае Сустрэчы Беларусаў Паўночнае Амерыкі, што адбылася ў Таронта, быў асвечаны, узнесены для адзначэння тысячагоддзя хрысціянства ў Беларусі ў прошчы паўночна-амерыканскіх пакутнікаў, што ў Мідляндзе, Антарыё, БЕЛАРУСКІ ПАМЯТНЫ КРЫЖ.

Дзесятае паломніцтва да Беларускага Памятнага Комплексу і ўрачыстасці звязаныя з юбілеем, адбудуцца ў суботу 20 чэрвеня 1998 году.

На 10-я ўгодкі Беларускага Крыжа прыпадаюць і 40-я ўгодкі сьвятарства айца Аляксандра Надсана, Апостальскага Візітатара для Беларусаў за мяжой, дырэктара Беларускай бібліятэюкі і музея імя Францішка Скарыны ў Лондане, Англіі. Айцец Аляксандр Надсан асвяціў Крыж. Наталля Арсеннева апела падзею вершам "Крыж". Адзначым першыя ўгодкі смерці Наталлі Арсеньневай і 9-я ўгодкі смерці кіраўніка пабудовы Беларускага Крыжа Вінцэнта Жук-Грышкевіча, і 2-я ад смерці дырэктара прошчы а. Дж.Фарэла, які даў нам дазвол на пабудову Крыжа ў прошчы і ставіўся да нас вельмі прыхільна.

***Д-р Раіса Жук-Грышкевіч, г. Таронта, Канада***



## Каталіцкі каляндар па - беларуску

На фоне непрыхільнага стаўлення некаторых дзяржаўных структур да беларускай мовы у сваіх міністэрствах і ведамствах станоўчы прыклад у гэтым плане паказвае каталіцкая царква на Беларусі. Пашыраецца колькасць касцёлаў, дзе імша вядзецца па-беларуску, выдаецца адпаведная літаратура. І вось новы яскравы прыклад. Нядаўна адноўлены кафедральны касцёл імя Насвяцейшай Марыі Панны ў Мінску выдаў вялікім накладам каталіцкі каляндар па - беларуску. На шчыльным аркушы кардону з аднаго боку падаецца цудоўны абраз Найсвяцейшай Дзевы Марыі з дзіцём на руках і каляндар на 1998 год, а на другім баку - ідзе падрабязны памесячны пералік усіх каталіцкіх святаў у гэтым годзе. Такую ініцыятыву можна толькі ўхваліць.

***Алег Трусаў, першы намеснік старшыні Рэспубліканскай рады ТМБ***

## Віншуем!

*У самага маладога археолага Беларусі Лявона Калядзінскага нарадзіўся ўнук Антось. Сябры віншуюць дзеда з прыемнай навіной і жадаюць усім, хто мае дачыненне да выхавання нашчадка, спраўдзіць спадзяванні беларусаў урэшце займець свайго лідара нацыі.*

## Пакуль жыве памяць.

13 лютага 1998 года Кастрычніцкая Рада БНФ і Рада ТБМ правялі ў 110-й сярэдняй школе гор. Менска вечарыну са старшакласнікамі, прысвечаную 160-й гадавіне з дня нараджэння Кастуся Каліноўскага і 135-й гадавіне паўстання 1863 г. на Беларусі. З уступным словам пра К.Каліноўскага выступіў прафесар Анатоль Грыцкевіч. Група студэнтаў Беларускага універсітэта культуры дала невялікі канцэрт. Кастрычніцкая Рада БНФ перадала для малодшых школьнікаў кніжкі на беларускай мове з малюнкамі. Настаўнікі школы і вучні гасцінна прымалі сваіх гасцей.

*А.Г.*



№ 7(341) 25 ЛЮТАГА 1998 г. Наша слова

# Чаму беларусы не гавораць па-беларуску?

**(Погляд на праблему вачыма студэнтаў).**



Тое, што ў Беларусі народ не гаворыць на роднай мове, кідаецца ў вочы кожнаму прыезджаму, асабліва, калі ён з былога СССР. Нават многія заходнееўрапейцы, якія часцяком наведваюць нашу краіну, пачынаюць па гучанні адрозніваць дзве мовы і, аддаючы павагу дэмакратычнаму выбару, няўхвальна адносяцца да нашай абруселасці. І ў Англіі, а асабліва, у Ірландыі дзе мне прыходзілася бываць з групай беларускіх дзяцей, людзі, даведаўшыся аб нашай праблеме дзвюхмоўя, з вялікім задавальненнем пераносяць на канверт менавіта беларускія літары адраса, просяць дзяцей пагаварыць між сабой па-беларуску. Мілая Марсіа Доўэл абшуквае ўвесь Уэльс, каб перакласці свой калядны ліст да мяне на маю родную мову. Так цэняць у Еўропе свае і чужыя каштоўнасці.

Для нас жа саміх гэтай праблемы, звязанай з бытавым выкарыстаннем народнай мовы, быццам і не існуе. Нараджаючыся, гарадское дзіця ўвальваецца ў расейскамоўную плынь, усталяваную гадамі. І тое, што гэтая плынь добра папсутая генетычным фрыкатыўным "г", зацвярдзелымі "ч" і "р" і іншымі асаблівасцямі беларускай арфаэпіі беларусам не заўважаецца. Масавы беларус шчыра лічыць сваю гаворку рускай, згаджаючыся на ўсталяваныя рэзервацыі для роднага слова ў выглядзе ўрока бел.мовы і бел.літ, газетнай плошчы, што абразаецца з кожным годам, тэлерадыёперадач, скалечаных рускамоўнымі ўдзельнікамі.

Пытанне, чаму мы не гаворым на мове зямлі, дзе жывём, узнікае найчасцей у нашых гасцей, і гучыць яно натуральна. Мы ж баімся сабе самому яго задаваць, бо давядзецца тады адшукваць у патаемных сховах сваёй душы сярод мноства аб'ектыўных чыста суб'ектыўныя прычыны, як то комплекс непаўнавартасці ці ўвогуле быць такім, як усе. А гэта прызнаваць не захоча ніхто, асабліва з тых масцітых і не зусім, хто традыцыйна выкарыстоўвае роднае слова на працы, пры сустрэчах з беларускамоўнымі знаёмымі, але ў краме. на вуліцы, дома традыцыйна яго не ўжывае. Колькі я сутыкалася з сітуацыямі, калі мае былыя выкладчыкі Беларускага дзяржаўнага універсітэта, хто на занятках актыўна і, здавалася, шчыра прапагандаваў выкарыстанне роднай мовы ва ўжытку, здраджваў гэтым заклікам, выходзячы на вуліцу. Так, мы, сталыя, жывём па надзвычай традыцыйных мерках, не ўсведамляючы, што традыцыйнае стаянне ўбаку і назіранне за станам клінічнай смерці бытавой гутарковай мовы ёсць здрада і злачынства.

На вялікае шчасце, кожнае грамадства мае жывыя натуральныя, не зусім сапсутыя недарэчнымі традыцыямі тканкі - маладзёвы пласт. Гэта яны, часцей інтуітыўна, не ведаючы законаў мовы, ствараюць тыя гаючыя кропелькі, што жывяць сасмяглы лексічны зрэз. Цудоўныя слоўцы ўзнікаюць сярод школьнікаў беларускамоўных класаў. Ці не адметна ўліваецца ў жаргонную лексіку 70-х са славутай зруселай "***сцяпухай***" утворанае ў 90-х "***сусгіст***" (сусветная гісторыя), "***спецпадра***" (спецыяльная падрыхтоўка).

І гэта яны, сучаснікі 90-х без комплексаў спрабуюць загаварыць па-беларуску, вельмі лёгка адгукаюцца на лексіку беларускамоўнага суразмоўцы, пачынаюць аналізаваць прычыны расейскамоўнасці беларусаў.

Памятаю, у тых тхлаватых 70-х маіх студэнцкіх гадах на філфаку як бы спецыяльна кімсьці прыняты існаваў - як на тое паглядзець, здзеклівы - адказ - адчэпнае. Мы, значыць, тлумачылі нам педагогі, не карыстаемся сваёй лексікай, бо мовы— беларуская і расейская — вельмі падобныя, вось мы і выкарыстоўваем апошнюю. Як на выкладчыка універсітэта, згадзіцеся, адказ ні ў плот, ні ў гарод. Таму, згадаўшы такога кшталту аргументы са свайго студэнцтва, стаўшы выкладчыкам, я вырашыла спытаць у сваіх студэнтаў, як яны разумеюць прычыны, што перашкаджаюць мове гучаць паўсюдна.

Прапусціўшы студэнтаў праз цыкл лекцый па паходжанні мовы, яе гісторыі, я прапанавала ў якасці тэмы сачынення тое праблемнае пытанне: "Чаму беларусы не гавораць па-беларуску?" Развааны былі рознымі, але ні ў адным я не ўбачыла таго абыякавага стаўлення, якое ўжо прывілося ад нялюба-стэрэатыпных школьных сачыненняў. Тэма захапіла і выклікала шэраг асабістых думак.

Сярод асноўных аргументаў падкрэслівалася складаная гісторыя нашай мовы ў Рэчы Паспалітай , Расійскай імперыі і ў БССР. ***"Беларусь была як невялікі човен, які кідала гістарычная мара то ў адзін бок, то ў другі. І кожны момант хваля паланізацыі, а потым русіфікацыі была гатовая праглынуць мову, культуру".***

Студэнты вылучаюць дзве забароны мовы як мэтанакіраваныя высечкі, што прывялі да нізкага ўзроўню самасвядомасці беларусаў. Адсутнасць беларускіх школаў паўплывала на веданне роднай гісторыі, роднай мовы - і гэта таксама вельмі важна. Школьнікі вывучалі жыццё імператараў іншых краін і не ведаюць нават імёнаў князёў сваёй дзяржавы. А колькі гадоў беларуская мова не вывучалася ўвогуле, і тыя 1-2 гадзіны ў савецкай школе не давалі магчымасці гарадскому дзіцяці авалодаць граматычнымі і лексічнымі асаблівасцямі мовы. Студэнты смела кідаюць каменчык і ў сямейны агарод, вылучаючы нежаданне бацькоў разарваць тое недарэчнае кола паўсюднага расейскамоўя. "***Накладвае свой адбітак і выхаванне ў сям'і. Бацькі, самі не ведаючы мовы і яе гісторыі, нічога не расказваюць дзецям аб мове, не прывіваюць любоў да роднай мовы".***

Але, як падкрэсліваюць студэнты , ***"самае страшнае ў тым, што нават той, хто ведае мову, не размаўляе на ёй".*** Прычына такога хаваецца ў псіхалагічным бар'еры, калі ***"большасць беларусаў...*** не ***хоча вылучацца з натоўпу, баіцца быць белай варонай".*** Гэтая прычына закранутая амаль у кожным сачыненні. Адчуваецца, што кожны некалі падбухторваў сябе адолець гэтую моўную мяжу, збіраў сілы, каб гэта здзейсніць, і відаць, далёка не многім ўдавалася пабыць, хай сабе і кароткі час, сапраўдным натуральным беларусам з мовай на вуснах. ***"Вядома, гэта нялёгкая справа-рабіць з сябе нейкае дзіва. Многія не зразумеюць гэтага, палічаць за спробу вылучыцца з шэрай масы".*** О, гэты прывід - рэальнасць - шэрая маса! У ім спліщчана намёртва і аднолькавая для ўсіх зарплата, аднолькавыя кватэры, аднолькавая школьная форма, аднолькавыя думкі, аднолькавыя сімвалы... Пяць гадоў назад мая дачка з узнёслым настроем пайшла ў школу, несучы ў партфеліку замест надакучлівых ужо савецкіх шэрых прыгожыя, з каляровымі малюнкамі сшыткі з Англіі. Вярнулася засмучаная. Аказваецца, нельга. Маё запытанне засталося без аргументацыі. Нельга - і ўсё тут. Толькі аднолькавыя можна. Дзякуй Богу, цяпер самі многае асэнсавалі і стараемся вырвацца з шэра-безасабовай жыццёвай масы. Гэта першы крок. Калі ж наступіць чарга кроку цераз мяжу моўнага белавароння?

Вельмі глыбока закранаюць студэнты пытанні дзяржаўнай моўнай палітыкі. " ***Мова не мае належнай дзяржаўнай падтрымкі. Бо, каб была гэтая падтрымка, то не скарачалася б колькасць беларускіх школ".*** Са скрухай пішуць студэнты, што чыноўніцтва, людзі дзяржаўнай службы і сам "***прэзідэнт не гаворыць на мове дзяржавы, не заклапочаны развіццём і пашырэннем роднага слова".*** З крыўдным параўнаннем адзначаны факт выказвання галоўнай асобы пра родную мову як пра бедную і неразвітую. Прызнанне найбагацейшымі мовамі расейскай і ангельскай, адчуваецца, не надае студэнтам аптымізму ў хуткім вырашэнні складаных лінгвістычных праблем у Рэспубліцы Беларусь. Студэнтаў турбуе, што беларус лепш будзе размаўляць на "трасянцы", чым на сваёй мілагучнай мове.

Вядома, у разважаннях не мог не прагучаць зацяганы тэзіс пра грубасць, немілагучнасць мовы. Але ў студэнтаў, якія ведаюць, як на вымаўленне слоў тыпу **сьмех,песьня** паўплывала рэформа 1933 года, як ідэя зліцця нацый і моў прайшлася каванымі ботамі па жывым слове, у студэнтаў, што рагаталі над пісьмом " вялікага лінгвіста" Панамарэнкі " вялікаму Сталіну гэтае зацьменне розуму выклікае ўсмешку. Але ўсе дружна адзначаюць, што і гэтая абсмактаная думка ўсё яшчэ жыве ў цёмных кутках свядомасці манкурта - беларуса.

Мне падалося цікавым, што важкі гарматны снарад мужыцкасці мовы, яе местачковасці ды саламянасці якім бухалі на працягу некалькіх стагоддзяў, лопнуў як мыльная бурбалка. Ні адзін студэнт не называе такую прычыну непапулярнасці мовы. Думаю, аўтарамі гэтай мыльнай баталіі з'яўляюца сённяшнія інтэлектуалы - адраджэнцы, здолеўшыя надаць мове элітарнасць, сведчанне адукаванасці.

Студэнты імгненна паўтарылі думку, выказанную кімсці са славутых, што самай вялікай бядой з'яўляецца парушэнне сувязі асобы з родным краем. Беларус, які не гаворыць на мове свайго краю, не мае сувязі са сваёй зямлёй. Ён робіцца чалавекам непаўнавартасным, другога гатунку і параджае сабе падобных. У выніку генетычнай селекцыі ўся нацыя плодзіць пакорлівых і рахманых, што падладжваюцца пад абставіны і пад ... мову. Пад расейскую мову меншасці, тых, прышлых на нашай зямлі, утульнай, багатай і спакойнай для іх, з цярплівымі і затурканымі беларусамі, такімі зручнымі для карыстання. На гэтай зямлі і мову другую вучыць не трэба, і крэсла начальніцкае падставяць і на покуць пасадзяць, а самі ... "Хто будзе лічыцца з намі такімі?!"

Дзякуй Богу, што моладзь наша ўжо не згодная сярмяжкай абыходзіцца, што прыходзіць (будзем спадзявацца) натхнёная вера ў сваё слова. ***"Калі чалавек адмаўляецца ад роднай мовы, то ён адначасова адмаўляецца ад сваёй нацыі, ад сваёй гісторыі, ад свайго народа, ад сваёй радзімы. А мы, беларусы, не адмаўляемся ад усяго гэтага, мы проста сур'ёзна заблыталіся ў шматлікіх праблемах : гістарычных, палітычных, эканамічных, сацыяльных ... Але калісьці мы ўсё зразумеем. Спадзяёмся, гэта будзе не вельмі позна". "Мы зразумеем, што без сваёй мовы мы - не беларусы, а проста натоўп без гісторыі, сучаснасці і будучыні". "Наш дом - Беларусь, і ў гэтым доме павінна жыць свая мова - беларуская"..***

Адгучалі галасы маіх студэнтаў. Радкі ўклаліся ў доказы. І на хвілю здалося недарэчным само гэтае разважанне, ненатуральным. І хацелася б гнаць гэтае пытанне, няўклюднае ў сваім алагізме - сапраўды, чаго гэта беларусы не гавораць па-беларуску, што ім стрэліла ў галаву? Але, як кажуць, не трэба заганяць балячку ў сярэдзіну, бо адтуль яна вылезе ўжо цяжкой, часам невылечнай, хваробай. І разважаць, і аналізаваць, і вырашаць трэба. І не паасобку, а ўсім разам, маладым і старым, разважлівым і кіпучым, патрыятычным і не вельмі, смелым і не. І ... пачынаць гутарку чыніць сваім ладам, сваім слоўнікам, каб было з кім душу адвесці. Колькі разоў сябры ТБМ, асабліва хто працуе на вытворчасці, скардзіліся на адсутнасць суразмоўцы ў саёй мове, колькі ў сядзібу Таварыства прыходзіла людзей з адной мэтай — пагаварыць па-беларуску. Зялёнае поле нашай мовы, запушчанае нядбайнымі гаспадарамі, паступова ператвараецца ў карычневую пустку, і ўжо адчувальная стынь смерчу, які скруціць у вір бяздоння і мову, і нацыю. І няма нам куды з'ехаць, адшукаць другую зямлю з крынічкай роднага слова. Трэба свае крыніцы чысціць, вымятаючы азызлы бруд, ставячы зруб нашага Дома, нашага Слова, нашай Маці-Мовы.

***Людміла Дзіцэвіч,***
***выкладчык ВНУ.***

***Наваградак.Шчырая размова.***

# ТАКАЯ "НЯРОДНАЯ" РОДНАЯ МОВА ...

***"Дзіўна... і смешна ад таго, што мы, беларусы, не гаворым па-беларуску..."***
*(З ліста Ірыны Б.)*

Перш-наперш хачу ўнесці невялікую карэктыву ў радок з ліста Ірыны. Гаварыць якраз мы гаворым. Але як? Як часта і як правільна? І навогул, як успрымаем мы родную мову?

Сёняшнія суразмоўцы розных сацыяльных слаёў і рознага ўзросту запрашаюць усіх далу чыцца да гутаркі.

**Андрэй Н.:** ***- Беларускую мову ўспрымаю як родную. Але, на жаль, у школе любоў да яе не прывілася. Гэта проста было немагчыма. Мы размаўлялі толькі на расейскай мове, а пра існаванне беларускай быццам забываліся.***

**Таццяна А.** ***: - Размаўляць на беларускай мове пачала таму, што стала працаваць у беларускамоўным класе. Але якое гэта было маўленне?! Адно слова - расейскае, другое - беларускае. Адным словам, трасянка, ды і толькі! Давялося тэрмінова авалодваць беларускай лексікай. А як быць? Яшчэ ў гады навучання ў інстытуце зносіны ва ўсіх галінах адбываліся толькі на расейскай мове. А пра беларускамоўныя класы тады і "не снілі".***

Так. Тыя, каму за 25, "прайшлі" праз расейскамоўнае выхаванне. Таму іх можна зразумець... з аднаго боку. А з другога? Сёння вялікая колькасць людзей сарака-пяцідзесяцігадовага ўзросту (а яны выхоўваліся ў тых жа ўмовах) без цяжкасцяў размаўляюць па-беларуску. Значыць, было б жаданне? А ці ёсць яно ў сучасных школьнікаў? Ці жадаюць яны размаўляць на роднай мове?

**Аляксей Л.:** ***-Да беларускай мовы стаўлюся пасрэдна. Магу размаўляць, пісаць, але аддаю перавагу расейскай мове. Я лепш яе ведаю.***

**Ірына К.:** ***- Беларуская мова вельмі прыгожая і гучная. На ёй размаўляюць мае бацькі, таму і я размаўляю па - беларуску з маленства.***

**Наталля Б.:** ***- Асабіста я лічу беларускую мову паўнапраўнай у адносінах да іншых моў.***

Так лічаць, на жаль, далёка не ўсе. Апытанне сярод часткі школьнікаў паказала, што для многіх з іх беларуская мова займае ажно трэцяе(!) месца пасля расейскай і англейскай.

Але, на шчасце, ёсць і тыя, хто настроены аптымістычна і верыць у тое, што час усё пераменіць і рэйтынг беларускай мовы ўзрасце.

**Наталля Б.:** ***- На маю думку, з цягам часу ўсе беларусы будуць размаўляць на сваёй мове.***

**Ірына Ш.:** ***- Кожны чалавек павінен любіць і ведаць родную мову. Аднак апошняе ў нас чамусьці не вельмі атрымліваецца.***

Дык чаму ж мы не ведаем сваёй мовы? Аб гэтым - у наступны раз.

***Д.МІТКОЎ.***



**Павел Сцяцко**
доктар філалагічных навук, прафесар, старшыня Гарадзенскай абласной рады ТБМ імя Францішка Скарыны

# "З чужой моўнай практыкі..."

## Шыкоўны — а не шыкарны, шыкозны.

У беларускай мове бытуе цэлае гняздо словаў з коранем ***шык-: шык*** — "раскоша, форс, элегантнасць"; "найлепшае задавальненне"; ***шыкаваць*** —"жыць з шыкам; праяўляць у чым-небудзь шык; фарсіць"; ***шыкоўны*** — "раскошны, багаты, пышны", "надзвычай добры; вельмі прыгожы, цудоўны" (ТСБМ. Т.5. Кн.2.Мн.,1984.С427-428). Прыметнік ***шыкоўны*** стасуецца з дзясловам ***шыкаваць*** і ўтвораны ( з адцінаннем фінальнай галоснай ***-а-*** ) з выкарыстаннем прадукцыйнага спрадвечнабеларускага суфікса ***- н -: шыкав -(аць) + (-н-ы) шыкоўны***. Як і ***чараваць —чароўны, рызыкаваць — рызыкоўны, гартаваць — гартоўны ...*** Стасуецца прыметнік ***шыкоўны*** і з назоўнікам ***шык*** ( тут вылучаецца суфікс - ***оўн-ы***, як і ў ***словах духоўны, грунтоўны, цудоўны, каштоўны*** і пад.)

У расейскай мове беларускаму ***шыкоўны*** адпавядаюць словы ***шикарный, нарядный*** (БРС-*(.Т.2.С.723). "Русско-белорусский словарь" 1993 года таксама падае беларускі адпаведнік ***шыкоўны*** да рас. ***шикарный*** (Т.3). Фіксуецца тут і прыслоўе ***шыкоўна*** як эквівалент рас. ***шикарно.***

Разам з гэтымі натуральнымі словамі — ***шыкаваць, шыкоўна, шыкоўны*** — бачым у слоўніках і словы з непашыранымі ў беларускай мове, іншамоўнымі суфіксамі ***- арн- (шыкарны***) і ***- озн - (шыкозны***). Пры гютым сэнсава яны нічога не дадаюць да сематыкі натуральнага беларускага ўтварэння ***шыкоўны***, ад якога ўтварыўся і адцягнены назоўнік ***шыкоўнасць***. З улікам згаданага відаць, што прыметнік ***шыкарны і шыкозны*** менш прыдатныя для карыстання параўнальна з сістэмава абгрунтаваным утварэннем ***шыкоўны***. Недарэмна ў друку апошнім часам аналагічныя ўтварэнні замяняюцца на ўласнабеларускія, параўн. амбіцыёзны—амбіцыйны, венозны—венавы; прыгадаем: рэлігійны і( рас. ) рэлигиозный.

## "Ракавы кніжн.— роковой".

Вось гэты цуд бачым у "Беларуска-рускім слоўніку" (Т.2.Мн.,1989. С.376). Але гэтага слова ***"ракавы"*** не падае нават 5-томавы "Тлумачальны слоўнік беларускай мовы", у якім нямала небеларускіх словаў. У расейскай мове слова ***роковой*** — прыметнік ад ***рок***, якое кваліфікуецца так: "**Рок**, - а, м. Высок. Судьба (обычно злая, грозяшчая бедами, несчастьями и т.п.). **Злой рок**" ("Словарь русского языка". В четырёх томах. Т.3.М.,1984.С.728). Тут падаецца і **роковой** за наступной характарыстыкай: "Предопределённый, по суеверным представлениям, роком, неовротимый, неизбежный; гибельный, смертельный, несуший горе, несчастье, страдания; решаюший, предопредаляюший судьбу кого-чего-либо"(Тамсама).

У беларускай мове рас. ***рок*** адпавядае ***лёс***, а прыметніку ***роковой — фатальны, наканаваны, суджаны, пагібельны***; роковой исход болезни — пагібельны вынік (канец) хваробы" (РБС-93.Т.3.С.261). Як бачым, гэтае ракавы "пералезла" з правай, расейскае, часткі на беларускую "роковым" чынам, без ўсякіх на тое падставаў. Не бачым яго і ў "Тлумачальным слоўніку" 1996 года. Не было яго і ў "Беларуска-рускім слойніку" 1962 года.

У народнай мове слова ***ракавы*** бытуе з тым значэннем, што і літарат. ***гадавы***. Ракавое сьвята. Утворанае ад ***рок "год"***. Вядомае старажытнабеларускай мове, польскай і іншым. Яно фіксуецца і "Беларуска-расейскім слоўнікам" 1926 года.

У перакладныя слоўнікі ***"ракавы"*** было ўціснута дзеля хутчэйшага збліжэння моваў". Але ж яно штучнае (бескаранёвае, адзінотнае).

## Зарука, заклад — а не залог.

Слова ***заклад*** мае значэнне "гарантаванне звароту пазыкі шляхам перадачы крэдытору якой - н . каштоўнай рэчы, маёмасці", а таксама "сама рэч, пакінутая таму, што даў пазыку". значэнем "гарантыя, доказ, сведчанне" натуральным ёсць слова ***зарука***. Гэтае слова актыўна выкарыстоўваў Якуб Колас: "Адно толькі цешыла сэрца: народ не хоча зміріцца з такім ладам. І у гэтым — зарука перамогі". Яго выкарыстоўваюць і сучасныя знаныя літаратары: "Спадзяюся, што Новы год прынясе на нашу зямлю цеплыню любові і даверу, гарнтыі назалежнасці і дэмакратыі, заруку поспехаў і дабрабыту (Г.Бураўкін. Наша слова. 1998 г.№ 1). Слоўнікі 20-х гадоў не фіксавалі слова ***залог***, а толькі ***заклад*** і ***зарука.***

У "Беларуска-расейскім слоўніку" М.Байкова і С Некрашэвіча слова ***заклад*** мае значэнне рас. ***залог; пари*** (С.109). В. Ластоўскі сведчыць: "Залог м.- зарука, заклад. Аддаў у заклад гадзіннік. Узяў у заклад ад яго рэчы. Гэта будзе нам зарука сямейнага шчасця. Зарука лепшай будучыні" ("Расейска-крыўскі (беларускі) слоўнік".Коўна.1924.С.193).

А вось слоўнік часоў "будовы камунізму" "забыліся" на свае словы і "ўзялі на ўзбраенне" ўсесаюзнае залог. У РБС-53 чытаем: "Залог 1. залог, заклад; 2. перан. залог; в залог дружбы - у залог дружбы" (С.150). Гэты артыкул паўтараюць і ўсе наступныя яго перавыданні. І калі слова ***заклад*** яшчэ падаецца поруч з ***залог***, то ***зарука*** ўжо і не прыгадваецца з гэтым значэннем.

Ад ***заклад*** натуральнае слова і ***закладнік***, якому ў расейскай мове адпавядае ***заложник***. Сучасны друк, на жаль, звычайна выкарыстоўвае гэтае слова замест сістэмавага абумоўленага ***закладальнік,*** натуральнага для беларускай мовы.

# Мастоўшчына беларуская

## Знаёмства з Мастоўшчынай

Мастоўшчына мае багатую гісторыю . Значнае развіццё атрымалі тут і культурныя традыцыі. У народзе заўсёды высока цаніліся дасціпныя людзі, якія маглі праспяваць песню, расказаць казку-быль, што перадавалася з пакалення ў пакаленне. Бацькі марылі бачыць сваіх дзяцей вартымі прадаўжальнікамі роду.

Цікавы факт паведамляе "Летапіс Самуйлавіцкай царквы": " Калі нараджаецца дзіця, баба абразае яму пупок, кладзе на кніжкі, каб яно было разумным".

Трэба сказаць, што ў нашым краі ад прадзедаў захаваліся шматлікія казкі, легенды, паданні і песні, якія , дзякуючы рупліўцам, дайшлі да нашых дзён. У згаданным "Летапісе"..., складзеным святаром Савам Кульчыцкім у 80-я гады мінулага стагоддзя, маюцца ўзоры вясельных і жніўных песень, а таксама тэксты песень, якія спявалі на вячорках.

У кнігах фальклярыстаў мінулага стагоддзя П.Шэйна і Е. Раманава трапілі ўзоры народнай творчасці, запісаныя ў вёсках сучаснай Мастоўшчыны. Так, настаўнік І.О.Радзілевіч у 1872 г. у в.Пескі запісаў легенду пра Ліхаўскае возера, а навучэнец Свіслацкай настаўніцкай семінарыі А. Махнач у вёсцы Пацавічы запісаў паданне пра Альхоўскае возера.

Настаўнік Шостак у 1873 годзе запісаў паданне пра мястэчка Масты. Значны ўклад у запіс фальклору ўнёс ураджэнец вёскі Раўкі настаўнік А. Мышка. Яшчэ навучэнцам Свіслацкай семінарыі запісаў у роднай вёсцы шэраг легенд і паданняў, сярод якіх "Дзёмкаў груд", "Бараноўскі роў". А яшчэ А. Мышка зрабіў этнаграфічнае апісанне вёскі Раўкі за 1914 год, у якім прыведзены творы вуснай народнай творчасці, а сярод іх шмат абрадавых песняў.

Вядомы польскі фальклярыст Міхал Федароўскі запісаў легенду аб паходжанні вёскі Сямірэнкі, якая змешчана ў яго вядомай працы "Люд беларускі".

У пасляваенны час зноў актывізавалася работа па вывучэнні і збору фальклору. У 1946 г. на Мастоўшчыне пабываў вядомы беларускі фалькларыст Рыгор Раманавіч Шырма, ён запісаў шэраг песняў ад жыхара вёскі Кошчына М.Марцінчыка. У вёсцы Вайнілавічы фалькларыст Л.Р.Бараг запісаў шэраг казак



ад мясцовага казачніка І.Г.Мазалеўскага. Яго казка "Разумны хлопчык" увайшла ў зборнік "Беларускія народныя казкі", якія выдадены на нямецкай мове.

У 60-я гады ў вёсках Мастоўшчыны пабывалі многія беларускія фальклярысты, як Г. Барташэвіч, І.Цішчанка, В.Скідан, А.Ліс, Р.Талай,Э.Ледаховіч і інш. . Яны сустракаліся з аматарамі народнай творчасці вёсак Ляда, Зарудаўе, Дубна, Заполле, Кулёўшчына, Гудзевічы і інш.. Пэўны ўклад у збор твораў вуснай народнай творчасці ўнеслі нашы землякі, якія вучыліся ў свой час на філалагічным факультэце БДУ. Яны ў сваіх родных вёсках запісвалі песні ад родных і вяскоўцаў, хто захаваў у памяці творы фальклору. Гэта Л. Зубялевіч, М.Буцько, М.Бохан, Н. Буйніцкая, А.Васько. А.Шаркоўская, В.Пяцюшык і іншыя.

Усе запісы фалькларыстаў сведчаць, што на Мастоўшчыне бытуе незлічоная колькасць песень высокай мастацкай вартасці. Яны змешчаны ў шэрагу зборнікаў, у тым ліку ў шматтомным серыйным выданні "Беларускі фальклёр".

У наш час назіраецца новы паварот да фальклёрных крыніц, да песень дзядоў і бабуль. Хаця на гэтым шляху шмат цяжкасцяў, і ў першую чаргу прызнанне дзяржаўнай мовай і рускай, што стала тормазам у развіцці нацыянальнай культуры. Аднак у вёсках ствараюцца фальклорныя гурты, якія ўспомнілі песні прадзедаў і выконваюць іх у тым стылі, у якім яны гучалі раней. Найбольшай папулярнасцю карыстаюцца гурты аўтэнтычнага фальклору вёсак Нацкава Курылавіцкага сельсавета, Стукалы Талубоўскага сельсавета, Кошчына Азёркаўскага сельсавета, вёскі Струбніца Пескаўскага сельсавета, вёскі Зарудаўе Зарудаўскага сельсавета.

Мацнеюць і літаратурныя традыцыі краю. Пэўны ўклад у літаратуру ўнеслі нашы землякі паэты Міхась Явар, Сяргей Крывец. На Мастоўшчыне, у наднёманскіх вёсках Лунна, Мяшэтнікі, Мінявічы, Багатырэвічы, Паніжаны і Гладавічы чэрпала тэмы для сваіх твораў польскамоўная пісьменніца Эліза Ажэшка. Два нашы землякі Анатоль Верабей і Яраслаў Хлімуць з'яўляюцца сябрамі Саюза пісьменнікаў Беларусі.

Пры рэдакцыі раённай газеты працуе літаратурнае аб'яднанне "Зоры над Нёманам". Літаратары выступаюць у працоўных калектывах, у школьнай аўдыторыі. У 1994 г. выдадзены першы зборнік літаратараў Мастоўшчыны пад назвай "Каля Нёмана".

Нягледзячы на ўсе цяжкасці на Мастоўшчыне развіваюцца культурныя традыцыі, памнажаюцца набыткі.

***А.СабасцяН.***

## З родных вытокаў

Зараз на Мастоўшчыне праходзяць мерапрыемствы ў межах першага рэспубліканскага фестывалю народнага мастацтва Беларусі: "Беларусь - мая песня". Фестываль на сваёй мэце мае задачу павышэння ролі і ўзроўню народнай творчасці, шырокае далучэнне людзей розных узростаў да заняткаў усімі відамі і жанрамі народнага мастацтва. У ім прымаюць удзел рабочыя, калгаснікі, службоўцы, вучні школаў, пазашкольных устаноў, індывідуальныя выканаўцы і іншыя. 1 і 6 лютага ў раённым Доме культуры экзамен трымалі гарадскія калектывы мастацкай самадзейнасці. 8, 14 і 15 такія ж мерапрыемства адбудуцца у сельскіх Дамах культуры.

Са сцэны гучыць не толькі песня, але гледачы могуць убачыць бадзёры беларускі танец, пачуць верш, творы розных жанраў.

## Тутэйшыя юбілеі

Днямі дзве школы раёна адзначылі свой юбілей: адна з самых старэйшых ў вёсцы Гудзевічы святкавала 135 гадоў; школа нумар пяць горада Масты — дваццаць.

У гэтых школах працуе шмат прыхільнікаў беларускай мовы, прапагандыстаў роднага слова.

У свой час у Гудзевічах настаўнічаў адзін з выбітных беларускіх руплюўцаў Алесь Мікалаевіч Белакоз. І сёння працуе шмат адданых беларускай справе людзей.

Здароўя і поспехаў Вам у нялёгкай на сёняшні дзень справе народнай асветы.

***Я. Палубятка.***

## Аповесць пра словы

*Каб не парушаць традыцыю нашай газеты і не парапыняць нашую "Аповесць пра словы", я мушу скарыстацца тым, што таксама крыху мастовец, бо ажно восем месяцаў жыў у Мастах і ў гонар гэтага наступны раздзел нашай аповесці пра мост.*

### Мост. Мястэчка. Мастак. Масла.

Марна шукаць слова мост у глыбокай старажытнасці. Будаваць масты пачалі значна пазней, чым гаварыць і, навогул, даволі позна, асабліва на Беларусі. Абыходзіліся бродам. Разам з тым гняздо словаў утворанных вокол маста даволі вялікае: мост, масціць, маставая, масток, мястэчка ці месца, мастак , масніца і г.д. І словы гэтыя даволі разнастайныя. Тым не менш павінна быць нейкае першае слова, нейкая першаасноў.

Бліжнія славянскія мовы, як звычайна, нічога новага дадаць не могуць. Таму мы мусім ізноў ісці ў глыбіню стагоддзяў і звяртацца да амаль роднага ўжо сансрыта. Тут мы маем: ***масту***-кіслыя вяршкі, ***мастака*** - галава, чэрап, верх, вяршыня; ***масцічка*** - мазгі, розум. Галава з розумам - да нашага моста ні злева, ні справа. А вось вяршкі ды яшчэ кіслыя. Дык яны - самі па сабе ўжо мост - шчыльнае ўтварэнне над вадкім малаком. Вяршкі за-ўсёды зверху. У першым сэн-се , ўсё, што зверху — вяршкі.Такое ***масту — масткі*** можна было масціць паверх балота і прабірацца праз дрыгву. Пасля ***машчэння*** атрымоўваўся ***мост***, а дакладней, ***маставая*** ў сёняшнім разуменні. А драўляныя ***маставыя*** ў беларускіх гарадах гэта ўжо з недалёкага мінулага. Такім чынам вяршкі на малацэ далі нам ***маставую*** - тратуар. Спосаб пабудовы ***маставой***, якая рабілася часта на даволі высокіх апорах зрушыў думку на пабудову ***вялікай мастaвой - маста*** цераз рэчку.



Падвясны мост праз Нёман у Мастах.

Ну добра, ад вяршкоў да моста мы дайшлі, а як жа з ***местам*** і ***мястэчкам.*** Пачнём з польскай мовы. Там мяста - горад, а мястэчка - гарадок. З мястэчкам пагодзімся, што яно ад мяста. А адкуль само мяста. Даволі цяжка прывязаць па сэнсу горад да вяршкоў, але вось тут і мусім згадаць, што ***мастака*** - гэта акрамя ўсяго іншага і ***вяршыня***. А ў адным з папярэдніх раздзелаў разглядаючы паходжанне слова горад мы вывелі яго ад гары (нагара). А калі ***горад*** мог утварыцца ад ***гары***, то ***мяста(места)*** у значэнні горад магло з такім жа поспехам утварыцца ад ***вяршыні - мастакі***. Такім чынам мы не толькі разабраліся з местам, а і пацвердзілі папярэднюю выснову, што слова ***горад*** паходзіць ад слова ***гара***.

Словы месца ***(мейсца), мясцовы ,мясцовасць, мясціна*** аналагічна прывязваюцца да слова ***мастака***.

***Мешчанін - жыхар места, гараджанін***. Беларускае слова ***месца***, а таксама слова ***мясціцца***, ***прымясціцца*** выходзяць ад словаў ***масціць, масціцца, масціць сухое месца***. І цераз словы ***мясцовы***, ***мясцовасць*** зліваюцца з гназдом словаў ***места, мястэчка, мешчанін***. ***Мясцовасць*** можа з такім жа поспехам абазначаць ***прастору вокол лейкага месца і вакол места- горада***.

Наступнае слова з гэтага гняздоўя - слова ***мастак***. Мастак той хто умее масціць: маставую, мост і г.д. ***Майстар***. У расейскай мове сло-ву ***мастацтва*** адпавядае слова ***искусство.*** Искусный мастер. Беларуская мова аддзяліла ад тэрміна ***мастацтва*** тэрмін ***майстэрства***. Але яшчэ гадоў шэсцьсот-пятьсот назад такога дзялення не было і слова ***мастак***, чалавек які ўмее масціць, ужывалася ў значэнні про-ста ***майстар, добры май-стар***. На ***добрага майстра***, што б ён не рабіў, і зараз кажуць ***мастак.***

З усіх прафесій маляванне, размалёўванне палацаў, цэркваў было адной з самых складаных. Гэтая прафесія давалася толькі абраным. Той, хто акрамя іншай работы яшчэ ўмеў і маляваць быў сапраўдны мастак. Так слова ***мастак*** аддзялілася ад пласту майстроў і стала назвай невялікай праслойкі малявальшчыкаў. А астатнія пазычылі ў немцаў слова майстар (Meister).

А што ж у неславянскіх мовах. Па - нямецкаму ***мост - die Brucke***. Згадаем беларускі ***брук***, які на расейскую мову перакладваецца, як ***маставая***. Ад слова ***брук*** мы ўтварылі словы ***брукаваць, брукаванка, брукаваны***. Дарэчы, расейскае слова ***брусчатка***, якое спрабуюць ужываць, як аналаг беларускаму бруку пайходзіць ад слова ***брус***, бо там дарогі масцілі драўляным брусам.

Але ў саміх немцаў няма слова brucken. ***Масціць*** па нямецку - ***pflastern***.

Беларусы ж, прыхапіўшы ў немцаў ***мост - die Brucke***, пачалі ***брукаваць*** у сэнсе ***масціць***, яшчэ раз пацвердзіўшы першаасноўнасць слова ***масціць*** і больш позняе з'яўленне самога ***моста***.

І яшчэ раз вярнуўшыся да санскрыцкага слова ***масту*** мы не можам прайсці міма слова ***масла***, якое робіцца (б'ецца) менавіта з гэтых кіслых вяршкоў, якое лягчэй за маслёнку, а таму таксама заўсёды зверху.

***Станіслаў Суднік.***

# Паэтычная масніца

## Крок

Зямля раскалолася напапалам,  
Нясмела ўніз ступаю,  
Жыццё чалавечае там,  
Як непатрэбнае, пакідаю.  
Не трэба апладысментаў,  
Не першая там блукаю,  
Мушу вызваліць сэрца,  
Без сэнсу яно дагарае,  
Крокам сваім скаламуціла душы,  
За тое і здратавана...  
Што мае словы ў глухія вушы,  
Хоць і праўдай афарбаваны.

***Анжэліка Глушкова.***

## Мой край

Люблю цябе мой край зялёны,  
Твае ўзгоркі і лясы,  
Твае шурпатыя далоні,  
Тваіх узораў паясы  
Тваю даверлівую цноту,  
Тваю вясну, мая зямля,  
Тваё жніво, тваю спякоту,  
Расу - слязіначку з галля!  
Бо гэта ўсё ўва мне — заўсёды  
І застаецца назаўжды,  
Бо гэта - дух майго народа,  
Бо гэта - мужнасці сляды  
Бо гэта ўсё, што засталося  
Нам ад магутнасці дзядоў.  
Яно-у велічы калося,  
Яно- у пералівах слоў.  
Яно - у радасці прыгожай  
І як умею я - прашу:  
— Не адымай, Магутны Божа,  
Ад нашых воч яго душу.

***Ірына Навуменка.***

## Родная мова

Малыя птушаняты,  
Як толькі падрастуць  
З - пад крыл матулі  
У свет лятуць.  
І потым самі  
У лесе, лузе, у бары  
На мове роднай  
Шчабечуць да зары.  
І гэтая гаворка  
Да скону іхняю была  
Праз шум рачны, і шэпат зорак  
Ім калыханкаю плыла  
Ды толькі братка-беларус  
Не ўмее мовы шанаваць  
І пэўна з-за таго  
Яму да веку гараваць

***Ліда Касцюкевіч.***

## Ці ўваскрэсне Беларусь?

Калі ўваскрэснеш, Беларусь?  
Калі заззяеш зоркай?  
Калі дап'еш ты келіх свой  
Нядолі такой горкай?  
Калі сатрэш нягод сляды?  
За што твае пакуты?  
Дзе назбірала ты бяды,  
Адкуль твой крыж і путы?  
З якой крынічанькі напіцца?  
Якой дарожанькай ісці?  
Якому полю пакланіцца,  
Каб шчасце, долечку знайсці?

***Аліна Тарарук.***

## Гудзевіцкая Беларусь.

Уявіце сабе любы раён Беларусі хаця б без адной вёскі, без вашай роднай вёскі і ён страціць у вашых вачах палову сваёй каштоўнасці, ён, проста, будзе не поўным. Уявіць жа Мастоўскі раён без Гудзевічаў, навогул, не магчыма, прынамсі, немагчыма для беларуса.

Часта можна пачуць: "Масты? Гэта тыя, што каля Гудзевіч?"

А расставіў прыярытэты тут усяго адзін чалавек. Звычайны настаўнік звычайнай беларускай мовы, дакладней, не звычайнай, а звычаёвай. Бо ён сваёй самаадданай, ахвярнай працай зрабіў беларускую мову мясцовым гудзевіцкім звычаем. І ён праславіў Гудзевічы стварыўшы музей беларускіх звычаяў, а правільней - музей літаратурна-краязнаўчы, этпаграфічна-культурны і народна-побытавы. Імя гэтаму чалавеку Алесь Белакоз. Справа гэтага чалавека - Беларусь.



Гудзевіцкі музей. Кухня.

У Гудзевіцкім музеі больш шасці тысяч экспанатаў. 96 працэнтаў з іх арыгіналы. Вакол Гудзевіцкага музея сотні беларусаў і ўсе яны сапраўдныя.



Гудзевіцкі музей. Сені.

Алесь Белакоз перажыў палякаў, немца, саветаў, спадзяецца перажыць і сучасную "дэмакратычную" і дачакацца вольнай Беларусі.

Музей перажыве і людзкую памяць і людзкое бяспамяцтва. Ён, схаваны ў Мастоўскай глыбінцы, станецца тым карэньчыкам, з якога пойдзе адзін з парасткаў сапраўднай беларускай культуры.

***Кастусь Касач. Масты.***

**Часовы выканаўца абавязкаў рэдактара Станіслаў Суднік**

*Заснавальнік:*
ТБМ імя Францішка Скарыны.
*Пасведчанне аб рэгістрацыі:*
№ 83 ад 28 чэрвеня 1996 г.
*Адрас рэдакцыі:*
220005, г. Менск, вул. Румянцава, 13.
*Адрас для паштовых адпраўленняў:*
2313000, г. Ліда-2, а/с 7.

*Рэдакцыйная рада:*
Генадзь Бураўкін — старшыня,
Людміла Дзіцэвіч, Сяргей Запрудскі,
Аляксей Пяткевіч, Аляксей Рагуля,
Аляксей Саламонаў, Павел Сцяцко,
Алег Трусаў, Эрнэст Ялугін.

*Аўтары нясуць поўную адказнасць за падбор і дакладнасць прыведзенай інфармацыі.*

Газета надрукавана ў Лідскай друкарні ўпраўлення грамадска-палітычнай інфармацыі і друку Гродзенскага аблвыканкама.
231300, г.Ліда, вул. Ленінская, 23.
Кошт па дамове.Газета падпісана да друку 23. 02. 98 г.
Наклад 3500 асобнікаў. Замова № 606.
***Падпісны індэкс:*** 63865.
***Кошт падпіскі:*** 1 мес.- 12 000 руб., 3 мес.- 36 000 руб.